# Голас Радзімы

№ 36 (2022)
3 верасня 1987 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.



Мікалай СТАРАВОЙТ жыве ў калгасе «Прамень Кастрычніка» Мазырскага раёна. Усё сваё жыццё ён працуе на зямлі, а ў вольны час майструе музычныя інструменты. На скрыпках, вырабленых народным майстрам, іграюць на святах мясцовыя музыкі, а таксама артысты самадзейных і прафесійных фальклорных калектываў рэспублікі.

НА ЗДЫМКУ: Мікалай СТАРАВОЙТ з унукам Аляксандрам.

Фота М. АМЕЛЬЧАНКІ.

*АКТУАЛЬНЫЯ ГУТАРКІ*

# САВЕЦКАЕ ГРАМАДСТВА: РОЗДУМ АБ ПЕРАБУДОВЕ

**Мой субяседнік — доктар філасофскіх навук Анатоль БУТЭНКА загадчык аддзела Інстытута эканомікі сусветнай сацыялістычнай сістэмы Акадэміі навук СССР, прафесар Маскоўскага універсітэта, аўтар васьмі манаграфій і больш за дзвесце іншых работ па тэорыі і практыцы сацыялізму. Вучоны выказвае сваю думку аб пераменах, якія адбываюцца ў савецкім грамадстве, яго праблемах.**

— *У плане перабудовы савецкага грамадства як вы ацэньваеце сёння XXVII з'езд КПСС?*

— Я б падкрэсліў сёння два моманты: наколькі аб'ектыўна XXVII з'езд ацаніў мінулы перыяд (без гэтага немагчымы сапраўдны рух наперад) і што зроблена за гэты перыяд, зыходзячы з такой ацэнкі. Гэта тым больш важна, паколькі студзеньскі Пленум ЦК КПСС зноў звярнуўся да нашага мінулага развіцця і выпрацаваў ацэнкі, якія ў некаторых выпадках ідуць далей, чым было на з'ездзе.

Жыццё прымусіла нас зноў звярнуцца да мінулага перыяду, таму што перабудова ідзе пакуль больш марудна, чым хацелася б. Яна натыкаецца, як высветлілася цяпер, на такія перашкоды, якія раней не называліся, часткова ці поўнасцю не ўлічваліся ці не былі выяўлены ў поўнай меры.

Вяртанне да мінулага нам патрэбна таму, што без дакладнага і поўнага ўяўлення аб памылках і недахопах таго перыяду мы не зможам правільна вырашыць намечаныя задачы сёння і ў будучыні.

— *Што новага ўнёс у гэтым плане студзеньскі Пленум?*

— Я вылучыў бы тры моманты, якіх раней не было ў дакументах партыі. Па-першае, у іх не было палажэння, што ў савецкім грамадстве сталі назапашвацца крызісныя моманты. Гэта важная канстатацыя, якая дазваляе глыбей прааналізаваць памылкі і недахопы мінулага і зрабіць неабходныя вывады.

Па-другое, у ходзе мінулага развіцця сфарміраваўся **механізм тармажэння.** Яго карані ляжаць у сур'ёзных недахопах функцыяніравання інстытутаў сацыялістычнай дэмакратыі, у палітычных і тэарэтычных установах, якія не адпавядалі рэальнасцям, у кансерватыўным механізме кіравання.

Па-трэцяе, многія ранейшыя памылкі і ўзніклы механізм тармажэння звязаны непасрэдна са з'явамі 30—40-х гадоў, якія адбываліся ва ўмовах культу асобы Сталіна. Таму партыі давялося і пасля XXVII з'езда зноў правесці на студзеньскім Пленуме аб'ектыўны аналіз таго перыяду, каб разабрацца да канца ў праблемах сённяшніх. Больш таго. Я думаю, што перабудова ідзе пакуль марудна таму, што якраз тыя сілы, якія не далі да канца ажыццявіцца рашэнням XX з'езда КПСС (1956), што развянчаў і асудзіў культ асобы, фактычна і спынілі працэс абнаўлення нашага жыцця, не хочуць перамен і цяпер, тармозяць іх. Калі мы не выявім поўнасцю сутнасць і пазіцыі гэтых сіл і не дадзім ім бой, перабудова будзе праходзіць марудна, працэс перамен можа нават павярнуць назад. Гэты момант, на якім зрабіў акцэнт Пленум, я лічу надзвычай важным.

— *У чым праявіліся крызісныя з'явы ў савецкім грамадстве?*

— Замарудзілася развіццё, што выявілася ў падзенні тэмпаў эканамічнага росту (самы нізкі паказчык — 2,6 працэнта ў 1982 годзе), знізіліся магчымасці павышэння жыццёвага ўзроўню насельніцтва, вострымі сталі харчовая, энергетычная і шэраг іншых праблем, якія ставілі грамадства ў складанае становішча. Не вырашыліся праблемы, звязаныя з парушэннем прынцыпу размеркавання па працы і іншых прынцыпаў сацыялізму.

Шэраг негатыўных момантаў, з'яў, адступленняў ад прынцыпаў сацыялізму і іх падмены ўзніклі яшчэ ў 30—40-я гады і, укараніўшыся, сталі элементамі механізма тармажэння, хаця ў той час яны па розных прычынах сябе моцна не праявілі. Гэта адбывалося пазней — у 60—70-я гады.

Сёння важна разгледзець усю гісторыю Савецкай дзяржавы і высветліць, дзе, як і чаму ўзніклі тыя ці іншыя негатыўныя з'явы, скажэнні, дэфармацыі эканамічнай і палітычнай арганізацыі грамадства, якія не давалі поўнасцю раскрыцца магчымасцям сацыялізму.

Пераасэнсоўваючы розныя бакі савецкага сацыялістычнага гаспадарання, мы адзначаем, што не ўсюды ў нас рабілася ўсё па-сацыялістычнаму, не ўсюды прымяняліся прынцыпы, нормы, механізмы, якія адпавядаюць сутнасці сацыялізму. І калі пытаюцца, у чым галоўны сэнс перабудовы, то самы канцэнтраваны і кароткі адказ — **больш сацыялізму, больш дэмакратыі.**

— *А ў чым сутнасць механізма тармажэння?*

— Механізм тармажэння складваўся з эканамічных, палітычных, сацыяльных і ідэалагічных форм, з'яў, рычагоў кіравання, якія не дазваляюць поўнасцю раскрыцца магчымасцям сацыялізму, што скоўваюць паспяховае выкарыстанне яго пераваг.

— *Адкуль узялося ўсё гэта?*

— Мне здаецца, што размова ідзе аб тым, аб чым папярэджвалі Маркс, Энгельс і Ленін, але што выпала з наступнага спрошчанага тлумачэння будаўніцтва сацыялізму: для рабочага класа, які прыйшоў да ўлады, вялікай небяспекай з'яўляецца бюракратызм. Заснавальнікі навуковага сацыялізму тлумачылі гэта тым, што на пэўным этапе пераходу ад старога грамадства да новага рабочаму класу яшчэ будзе неабходна дзяржава. І яна разам са сваімі органамі мае тэндэнцыю паступова ўсё больш і больш аддзяляцца ад грамадства, станавіцца сілай, усё больш самастойнай, якая пагражае паставіць свае інтарэсы над грамадствам. Таму Маркс і Энгельс падкрэслівалі: каб засцерагчы рабочы клас, працоўных ад такой небяспекі, **трэба з першых жа крокаў новага грамадства залучаць працоўных да кіравання, развіваць іх самакіраванне.** Толькі такім шляхам можна ствараць процівагу ўтварэнню бюракратычнай дзяржаўнай сістэмы.

Ленін указаў на небяспеку бюракратызму, зыходзячы ўжо з практыкі пачатковага перыяду будаўніцтва сацыялізму. І чым далей, адзначаў ён, тым больш актыўна трэба весці барацьбу супраць гэтай небяспекі.

Як Маркс і Энгельс, Ленін таксама лічыў, што да таго часу, пакуль існуе падзяленне функцый кіравання і выканання і ёсць кіраўнікі і кіруемыя, да таго часу ёсць небяспека бюракратызму — гэта значыць, аж да поўнага ўсталявання самакіравання, калі знікне дзяржава.

Але гэтыя ленінскія ідэі і думкі былі забыты Сталіным, пры якім запанавалі адміністратыўна-валюнтарысцкія метады кіравання, чым ствараліся самае спрыяльнае становішча для развіцця бюракратызму. Ніякіх мер па развіццю самакіравання, натуральна, не ажыццяўлялася. Улада поўнасцю была сканцэнтравана ў руках створанага адміністратыўна-бюракратычнага апарату. З гэтых пазіцый працэсы і рэпрэсіі 30-х гадоў выглядаюць як завяршэнне фарміравання сталінскай улады, якая разграміла тых, хто адстойваў сістэму кіравання, якая існавала да ўсталявання культу асобы і грунтавалася на ленінскіх ідэях і традыцыях.

XX з'езд КПСС смяротэльна напалохаў бюракратыю, але пазней яе актыўныя сілы згуртаваліся і змаглі спыніць працэс ачышчэння грамадства ад бюракратызму і іншых негатыўных наслаенняў. Іх і сёння палохае расшырэнне самакіравання, выбары кіраўнікоў, публічнасць у прыняцці рашэнняў, кантроль мас, гэта значыць усё, што ўжо ставіць і паставіць іх саміх пад кантроль мас, звужае і абмяжоўвае іх функцыі кіравання. Яшчэ Маркс трапна заўважыў, што адна з галоўных форм работы бюракратаў—таямнічасць, яны не любяць адкрытасці ўлады і разглядаюць яе як здрадніцтва іх інтарэсам. І сёння мы бачым, што **бюракратыя прадстаўляе галоўную сацыяльную сілу механізма тармажэння.**

Вядома, не кожны кіруючы дзяржаўны ці адміністрацыйна-партыйны работнік з'яўляецца бюракратам. Бюракрат толькі той, хто свае службовыя кіраўніцкія функцыі выкарыстоўвае ў асабістых мэтах, дрэнна выконвае сваю работу і тым самым тармозіць развіццё грамадства. І ўжо тым больш той бюракрат, хто, дзейнічаючы па дагаворанасці з іншымі, наўмысна перашкаджае руху грамадства наперад. Напрыклад, газета «Праўда» пісала аб выпадку ў Варашылаўградскай вобласці на Украіне, дзе аб'яднанымі сіламі адказныя прадстаўнікі дзяржаўных і партыйных органаў спрабавалі пасадзіць у турму журналіста за выкрыццё ім недахопаў і незаконных дзеянняў службовых асоб. Усе вінаватыя, уключаючы першага сакратара абкома партыі, пракурора вобласці і начальніка абласнога ўпраўлення КДБ, былі пакараны.

Бюракратыя баіцца непасрэдных сувязей з масамі, ведаючы, што можа выявіцца яе некампетэнтнасць ці няведанне патрэбнасцей працоўных, няўменне ці не жаданне сумленна працаваць.

Паколькі механізм тармажэння — прадукт і мінулых умоў, мы вымушаны вяртацца да іх. Менавіта тады складаліся такія формы кіравання вытворчасцю, калі рабочых адхілілі ад кіравання прадпрыемствамі і зрабілі толькі выканаўцамі працоўных функцый, працоўныя аказаліся па-за механізмам, які размяркоўваў вытворчы прадукт і даход, яны былі адхілены ад рэальнай улады, хаця ўлада дзейнічала ад іх імя. Аднак і ў тых умовах людзі самаадданна працавалі: савецкі народ дабіўся вялікіх дасягненняў у стварэнні новага грамадства, і сацыялізм вытрымаў цяжкае выпрабаванне на трываласць у бітве з фашызмам. Але паспяховае развіццё дасягалася вельмі дарагой цаной, з непатрэбнымі новаму ладу негатыўнымі з'явамі і выдаткамі, што моцна перашкодзіла сацыялізму поўнасцю раскрыць свой патэнцыял.

Цэнтральны Камітэт партыі адкрыта ўзяў на сябе адказнасць за памылкі 60—70-х гадоў. Такой моцнай самакрытыкі, якая прагучала на студзеньскім Пленуме, у дакументах партыі яшчэ не сустракалася. Там было сказана, што ЦК КПСС і кіраўніцтва краіны па суб'ектыўных прычынах, гэта значыць у сілу асабістых якасцей, не змаглі забяспечыць правільнае развіццё краіны. А Ленін падкрэсліваў, што адносіны партыі да сваіх памылак — важнейшы крытэрый яе сталасці.

**Гутарку вёў Альберт СІРОТКІН.**



**Група даследчыкаў, у ліку якіх супрацоўнікі Інстытута фізікі Беларускай Акадэміі навук акадэмік АН БССР Віктар Буракоў і члены-карэспандэнты АН БССР Анатолій Рубінаў і Аляксандр Вайтовіч, прапанавала прынцыпова новы метад вызначэння кампанентаў рэчываў у сумесі па іх характарыстыках паглынання святла. Гэты спосаб забяспечвае павелічэнне адчувальнасці вымярэнняў у параўнанні з вядомымі раней у... мільён разоў!**

**Замест звычайнай фотарэгіструючай тэхнікі для рэгістрацыі аслаблення свабоднага патоку пры прасвечванні ўзора вучоныя прапанавалі паспрабаваць атрымаць дакладную інфармацыю аб характарыстыках аптычнага паглынання рэчыва з дапамогай лазера.**

**Такі падыход адкрыў шырокія магчымасці даследавання і прывёў да з'яўлення новай галіны навукі — унутрырэзанатарнай лазернай спектраскапіі.**

**Сёння ідэі УРЛС атрымалі шырокае распаўсюджанне ў нас у краіне і за мяжой.**

**НА ЗДЫМКУ: супрацоўнікі Інстытута фізікі АН БССР члены-карэспандэнты Анатолій РУБІНАЎ і Аляксандр ВАЙТОВІЧ.**

**Фота У. АЛЯШКЕВІЧА.**

**РЭПАРТАЖ**

**З БАТАНІЧНАГА САДУ**

# *ПОЛЕ «ЦУДАЎ»*

**Забяспечыць харчовую прамысловасць рэспублікі вострымі прыправамі мясцовай вытворчасці — такую задачу вырашаюць вучоныя Акадэміі навук і Дзяржаграпрома БССР, якія акліматызоўваюць і ўкараняюць у сельскагаспадарчую практыку каштоўныя расліны розных шырот.**

Якіх толькі цудаў не бачыла гэтае «поле навасельцаў» у Цэнтральным батанічным садзе АН БССР. Тысячы відаў патрабавальных да цяпла раслін поўдня прабавалі свае сілы пад нашым не вельмі шчодрым сонцам.

Старшы навуковы супрацоўнік лабараторыі мабілізацыі раслінных рэсурсаў кандыдат біялагічных навук Лідзія Кухарава расказвае:

— Без вострых прыправ не зробіш каўбас, пельменяў, розных кансерваў, супавых канцэнтратаў, марынадаў, саленняў, безалкагольных напіткаў, шматлікіх кандытарскіх вырабаў.

Л. Кухарава паказвае дзялянку, дзе густа падымаюцца зялёныя расліны з буйным зубчастым лісцем.

— Захавалася яна ў нас у краіне толькі ў Белавежскай пушчы. А вось цаны ёй няма.

Расцёрты на далоні, ліст набыў такі ўсходні водар, што ў яго беларускае «грамадзянства» проста не верылася. Аказалася, што кадзіла не толькі прыемна пахне, але і дапамагае пры язве страўніка, туберкулёзе, хваробах нырак. Расліна — адна з нямногіх, здольных атрымліваць з глебы і накопліваць іоны неабходных чалавеку золата і серабра. Для безалкагольных напіткаў вучоныя сумесна са спецыялістамі Дзяржаграпрома рэспублікі падабралі некалькі «букетаў» з розных траў, дзе белавежская рэдкасць будзе іграць першую скрыпку. Выпуск такіх напіткаў плануецца пачаць ужо ў бліжэйшы час.

На дзялянцы акуратныя круглыя кусцікі. Гэта сатурэя — прышэлица з Каўказа. Прыжылася яна добра, і ўжо вучоныя перадалі першы ўраджай насення саўгасу «Рудакова», што пад Віцебскам. Гэта гаспадарка, якая ўваходзіць у аграпрамысловую фірму «Дзвіна», стала асноўным пастаўшчыком сыравіны для арыгінальных чайных збораў, выпуск якіх асвоены ў Віцебску.

Самыя пышныя зараснікі на полі палыну эстрагону або, як яго яшчэ называюць, тархуну. Гэты каўказскі госць адчувае сябе ў Беларусі настолькі добра, што ўжо ў самай бліжэйшай будучыні харчавікі змогуць адмовіцца ад завозу канцэнтрату гэтай расліны з Грузіі і перайсці на мясцовую сыравіну, неабходную для выпуску напітку «Тархун». І не толькі напіткаў. Палын эстрагон валодае такім магутным бактэрыцыдным дзеяннем, што некалькі каліваў сушанай расліны на літровы слоік дастаткова, каб без воцату закансерваваць памідоры або агуркі.

Батанікі прапанавалі нават выкарыстоўваць палын эстрагон замест хімічных кансервантаў пры закладцы сіласу. І тут навасялец не падвёў — ў вясны корм захаваўся ў выдатным стане.

**Д. ПАТЫКА.**

